Анастасія КАЦЮРГІНА

# ЦЯЖАРНАЯ СЛОВАМ



**Анастасія Кацюргіна нарадзілася 8 красавіка 1992 года ў Гомелі. Друкавалася ў «Літаратуры і мастацтве», «Літаратурнай Гомельшчыне», прадстаўляла «БрамаМараўскі» нумар «Маладосці» артыкуламі ў намінацыі «Крытыка». Піша вершы і прозу. У 2011 годзе свет убачылі зборнікі вершаў «Пад ветразем ранку» і «Парасон».**

* * *

*Т. Булгакавай*

Лёгкасці ветру
не стае,
што ж да мяне!..
Снежань... Ён цеплыню разрэжа
І горад — яблык саспелы.
Ўвап'юцца ў духмянае цела
вусені ўсіх метро.

За снегам прыйдзе святло,
І ў доме зялёным-зялёным
стане ўсё
улюбёным!..
І ляжа зіма-зіма...
Бярэцік будзеш здымаць,
Люстэрку не ўсміхнешся.
У ціхай штодзённай песні
Тралейбусам паплыве сіняе-сіняе...

І да бясконцасці:
Табе цішыні нестае,
мне — не хапае лёгкасці...

* * *

Застаюся цнатлівай!..
Калыша лясы
Да начной нематы
Твой расчулены голас.
Тут разлітая боязь
Мілых рук.
Толькі ты
Не спыняй і яшчэ
папрасі: «Пацалуй!»
Пад сукенкай насіць

Кожны дотык (да
ўскрыку шчаслівы).
Застаюся цнатлівай!..
І крыж мой даруй!
Бо яшчэ і абдымкі хаваюць належна
твой спакой,
незалежнасць маю…
Светлы Мой, я і сэрца спыню,
Каб ты спаў легкакрыла!
Застаюся цнатлівай!
Устаю на лязо
У адзінай прасцінцы з аблокаў і зор
І сябе за цябе абдымаю.
Паглядзі, я
ужо не трымаю
За краёчкі.
Трываю ледзь-ледзь —
Усюды неба, і страшна ўзляцець…
Толькі шчасце і сэрца прымусіць:
— Застаюся з табой…
Застаюся!..

* * *

Я сэрца слухаю,
сэрца проста
стукае, бы дзіця.
Нашто сягоння ўваскрос ты
усмешкаю
у грудзях?

Цяжарная словам, здрадзіць
Баюся сваёй віне —
Усмешкаю немаўляці
Ён свеціць і праз мяне.

Я слова яго не варта.
я сонцам яго нясу.
Ён крыж мой,
святло і вартасць жыцця
і яго прысуд.

Дзіця (унутры) — не болей —
зняверана не маўчы!
Тваёй цішынёй, як болем,
Разбуджана ўначы!
«Сту-чит!»

І смяяцца хоча
Абуджаны ў сэрцы Хлопчык.
Яму і ўнутры так цесна,
Цнатлівы Мой, Уваскрэслы.

Мне ўсё праз Цябе даруюць...
Я гэтак Цябе цалую,
што станаўлюся песняй!

Ды й стуку ўжо не чутна!...
О, Госпадзі, мой магутны!..

* * *

Госпадзі, беражы яго
Ад сонца ілжывага
Светлай Сваёй Любоўю!

І гэту атруту,
болем названую,
(нязваную?)
падзялі
для нас на паловы роўныя,
крывавыя — значыць, кроўныя!

Госпадзі, роднага
да Светлай Мяжы
з яго апантанасцю зберажы!

Калі
і надзеі скончацца,
у небыццё захочацца
Да прорвы той падыдзі,
Дай руку Сваю, Госпадзі,
Рабу Твайму!
Вымаліць
Дазволь, яго лёс выбеліць
Не словамі, дык душою.
Ну, а мяне чужою
пакінь!

Я болей
не буду
сонцам над ім.
А ён рабом будзе толькі Тваім
І гэтай Любові...
Амінь.

* * *

І Бог пачуе!
Ты сам прыснішся —
такі расчулены.
Рукі заблудзяцца ў валасах.
…Толькі нябёсы даюць у пасаг
мне.
…Сонца б выпіць,
і памяць астыне!

Ды пацалункам збягае па спіне
Гэта лязо.
У палоне нажа
плоццю хварэе рука і кінжал.
Цела не верыць, што стала алеем —
проста метал кожны раз пунсавее.

Бог не пачуе!
І варта крычаць
Толькі ад дотыку злога пляча.
Злога ды роднага…
Як жа не марыць
Аб першародным шчасці — ударыць?

Толькі б да смерці!
Такія грахі,
Божа, дай сцерці з любімай рукі!..

* * *

Нашто я табе хворая
Ва ўсмешцы сваёй, збалелая?
Так рука мая белая
Снегам тваю далонь накрыла.
Мы здабылі стомленасць крылаў,
Зморанасць подыху навальнічнага.
А калісьці была крынічнаю
Свежасць вуснаў тваіх сонных,
Цеплыня і пакорлівасць,
бездакорнасць,
запаветнасць,
бяздоннасць?
Вучаніцай стараннаю
Выдумляю найменні самоце.
Ты ёй станеш.
Разлажэнне,
распад на імгненні,
што
у нас
на сыходзе.
І пытанні,
І вечнае спасціжэнне
ненароджанных страт.
Значыць, кожнаму кат
Выдумляе сваю адзіноту!..
Ты прыходзіш у слоту
Маю і здымаеш боты
на парозе. І мне сорамна:
Я стаю дакорамі стомленая.
Зmoраная па дарозе
на шыбеніцу кахання,
(«забіць, але не параніць!»).
Так наступае ранне
сабе на горла.
Сорамна!
Спяшаемся,
пакуль прачынаецца горад.
Ды я ўжо хворая!
На тое, што дорыць
дарослacць,
разумнасць,
сталенне:
Адчайнае гэта гора,
Салёнае самае мора —
Цярпенне....